І. Мысьлінскі

# „ОБЩЕПОНЯТНАЯ“ МОВА

жарт у 1 дзеі

Дзяржаўнае Выдавецтва Беларусі

МЕНСК——1926

І. Мысьлінскі








# „Общепонятная“ мова

жарт у 1 дзеі

з украінскай мовы пералажыў **Ул. Дубоўка.**






Дзяржаўнае Выдавецтва Беларусі
МЕНСК——1926

# „Общепонятная“ мова

Жарт у 1 дзеі



## АСОБЫ ДЗЕІ:

| | |
|---|---|
| **Пячэрыца**—вызнае беларускую мову,<br>**Пісталетаў**—не вызнае беларускай мовы,<br>**Марыя Аляксандраўна** — друкаршчыца (машыністка),<br>**Сонечка**—маладзенькая рэгістратарша,<br>**Іван Вікенцьевіч** — кіраўнік спраў („управдел“), атрымоўвае пэнсію па 17 разраду, | супрацоўнікі канторы філіі Бумтрэсту |
| **Сымон Цюхцяй**—дзед,<br>**Паўлюк Рабаштан**—чалавек сярэдніх гадоў,<br>**Гапка Бандарэнкава**—удава. | сяляне |

*) Пры перакладзе на беларускую мову гэтае камэдыі, дзеля блізкасьці зачэпленых у ёй пытаньняў і да нашае сучаснасьці, зроблены наступныя зьмены:

1. Усюды словы „Украіна“, „украінская“—замяняюцца словамі „Беларусь“, „беларуская“.

---

*) *Увагі ад перакладчыка.*

2. Замест Т. Шаўчэнкі ўсюды ўведзены Я. Купала і Якуб Колас.

3. Словы, на якіх будуюцца тыя ці іншыя камічныя моманты, як, напрыклад: „слів“, наша „слоў“—заменена на „гэткіх рэчаў“ і г. д.

Пакінута толькі адно слова „тавар“, на якім будуецца значная частка камэдыі і аб якім **абавязкова** перад кожнай пастаноўкай трэба папераджаць слухачоў прыблізна гэткай прадмовай:

„П‘еса перакладзена на беларускую з украінскай мовы. Паукраінску, а таксама і ў нас папалеску слова „тавар“ значыць: „гаўяда, жывёла, стада“. У той самы час, калі парасійску гэта слова значыць тое, што паукраінску „крам“, „крамніна“. Слухачы павінны добра запомніць гэта, каб лепш уцяміць комічнае становішча мяшчан, якія выступаюць у гэтай п‘есе „абаронцамі“ расійскай мовы“.

Канцэлярыя філіі Бумтрэсту ў г. Балотным. Агульны выгляд установы на дзяржаўным разрахунку. Чацьвёра дзьвярэй. Машынка для друкаваньня. Тэлефон. Надпісы і плякаты на сьценах і дзьвярах. Портрэты.

Пячэрыца дыктуе. Марыя Аляксандраўна друкуе.

Пячэрыца. „На падставе"... Чакайце, чакайце! Я-ж дыктую „на падставе"...

Мар. Ал. А я что печатаю?

Пячэрыца. Ды вы друкуеце „не представил"!

Мар. Ал. Позвольте, позвольте! Вы же это и диктовали!

Пячэрыца. Ды кажу-ж я вам — „на падставе" — значыцца на грунце, на аснове.

Мар. Ал. Так вы так и говорите — „на падставе" — это значит „на основании", а не кричите. *(Папраўляе)*. Дальше.

Пячэрыца *(дыктуе далей)*... „вашага запытаньня"... „вашага"... „ва-ша-га"... ды не „вашева", а „вашага"... *(Мар. Ал. выпраўляе)*... „запытаньня"... „запытаньня"... Два „ні"! Два „ні" — „запытаньня".

Мар. Ал. Каторга какая-то, а не работа! Положите лучше, я сама... И на какой чорт вы бумажки составляете на белорусском? Выслужиться хотите? Карьеру сделать?

Пячэрыца. Аніякай кар'еры! Прынцып! Прызнаю пастановы XII зьезду цалком правільнымі.

Мар. Ал. Может быть для деревни это и правильно, но для филии Бумтреста, которая никогда дела не имеет с мужиками, — это, извините, глупость!

Пячэрыца *(абурана)*. Якая-ж тут „глупость"? Справа ясная і зразумелая. На Беларусі мусіць быць беларуская мова скрозь.

Пісталетаў. Еще нужно доказать, существует ли такая мова.

Пячэрыца. Як так? Хіба-ж вы ніколі ня бачылі беларускіх кніжак або ня чулі, як нашы сяляне гамоняць?

Мар. Ал. Селяне гомонят! Они такое гомонят, ваши селяне, что уши вянут! Одно сплошное неприличие! Может быть вы хотите, чтобы мы тоже так выражались, как ваши селяне. Остроумно, нечего сказать!

Пячэрыца. А расійскія сяляне „выражаюцца“ можа як гішпанскія гранды? Ды яны яшчэ горш.

Пісталетаў. Ты наших оставь в покое. Выражаются и они, конечно... Но зато у нас есть прекрасно выработанный литературный язык, язык богатый, а ваш?.. Невозможная смесь польских, русских, белорусских, украинских слов, мешанина какая-то, изобретенная господами Тарашкевичами и Лесиками для собственных надобностей. Жаргон какой-то!

Пячэрыца. Што-ж, патвойму і Купала і Колас на жаргоне пішуць?

Пісталетаў. Ты Купалу оставь в покое. Его язык на русский похож. Я его великолепно понимаю, а остальных—никак! *(Да Мар. Ал.)* Фотография, например,—„мордапіс“! Вы только подумайте: влюбится в вас какой-нибудь щирый и ляпнет: „Я вас люблю, дабы всегда носить ваш образ возле сердца, подарите мне на память ваш „мордопіс“! Умора! *(Съмяецца).*

Сонечка. А то еще: „самапёрам папёрлі на параплаў“. *(Званок тэлефону. Сонечка ўстае і накіроўваецца да яго).*

Пячэрыца. Брахня! У нас гэткіх рэчаў зусім няма; гэта кацапы павыдумлялі на глум!

Пісталетаў. Да мы не про „гречу“, а про мову вашу...

Сонечка. Тише, товарищи! Не слышно... *(У тэлефон).* У телефона. Да... Кого? Коштариса? Сейчас справлюсь... Слушайте, кто это Коштарис?

Мар. Ал У нас нет такого. А на что он понадобился?

Сонечка. Не знаю. Требуют терминово прислать.

Пісталетаў. Постойте, это, кажется, на мове какая-то должность так называется... Не то бухгалтер, не то завхоз. Что-то в этом роде. Печерица должен знать.

Сонечка. Слушайте, Печерица, кто это—Коштарис?

Пячэрыца. А той, што самапёрам папёр на параплаў.

Мар. Ал. Подумаешь—обиделся! Не хотите сказать, не надо... И без вас обойдемся...

Сонечка. Но как ответить? Ведь ждут у телефона!

Мар. Ал. А ну их к чорту! Передай: нет сейчас в конторе, когда возвратится, тогда передадим... Или стой! скажи лучше: уехал в командировку и вернется послезавтра! А то будут звонить тут до вечера.

Сонечка (*у тэлефон*). Вы у телефона?.. т. Коштариса сейчас нет; он в командировке и вернется послезавтра... Что? Какую ерунду?.. Коштарис—смета?.. Так отчего же вы понятным языком не выражаетесь?.. Послали уже!.. (*Чапляе трубку*). Чорт бы его взял этот белорусский язык! Подумайте: коштарис—смета! (*Пячэрыца съмяецца*). А вы чего смеетесь? Рады, небось, что подвели. Я вам этого не забуду, никогда не забуду. Это не по-товарищески, это свинство!

Мар. Ал. Добавь Соня: чистейшее белорусское свинство!

Пячэрыца. Ды я сабе меркаваў, што вы беларускую мову добра ведаеце! „Мордапіс“, „самапёр“, „параплаў“... дык і каштарыс, думаў, ведаеце... Не, на Беларусі жывіцё, дык павінны і гаманіць пабеларуску! Гэта вам навука!

Пісталетаў. Да скажи на милость, Печерица, на кой дьявол нужна ваша мова? Столько лет обходились без нее и все было благополучно, а сейчас—трах!—подавай белорусскую мову. Мода на вас сейчас и только!

Пячэрыца. Якая мода! Гэта-ж ясна і зразумела: вы для працоўнага народу, а не працоўны народ для вас! А на якой мове гамоніць у нас большасьць

працоўных? Няўжо-ж вы гэтага ня цяміце! Каб вы ня былі гэткімі дзеньдзівірамі, дык замест таго, каб лаяць нашу мову, патурбаваліся хоць крыху азнаёміцца з нашай літаратурай, з навуковымі творамі,— дык сьпявалі-б зусім іншае. А то яшчэ за старым часам заўчылі, як пататуі: жаргон, дый таўчыцё сваё. Можа наша мова яшчэ багатшая за вашу.

Мар. Ал. Почтеннейший, успокойтесь. Я здешняя, я тоже белорусска, у меня даже полный белорусский костюм есть, и он мне очень идет,—но все же я скажу: ваша мова—одна политика!

Пісталетаў. Совершенно правильно! Одна политика.

Пячэрыца. У чым тут палітыка?.. У чым?..

Сонечка. Тоже сказал: наша мова богаче вашей... Одни фамилии чего стоят! Например—Печерица. Выйти замуж и сделаться мадам Печерицей! Мадам Печерица! Бррр! Какая дура на это согласится!

Пячэрыца. Хіба-ж Шкурадзёравы, Кошкадаўлевы, Мухабоевы... прыгажэйшыя фаміліі? Гэта справа смаку... І дзе вы тут палітыку бачыце? То-ж жыцьцё так павярнулася! Гэта за старым часам была палітыка, калі царскі ўрад душыў нашу культуру ды выхоўваў гэткіх русацяпаў, як вы! Цяпер мінулася: мусіце і гаманіць і паперкі пісаць пабеларуску. Пабачыце, што будзеце!

Пісталетаў. Ну, нет, врешь! Ни гомонить, ни паперак писать не буду! Принципиально! Не вижу надобности! Куда мне она, ваша мова? Разве только на базаре с вашими дядьками из'ясняться! Так я и без вашей мовы сумею дешевле на гривенник выторговать! Да и сами ваши селяне, за интересы которых вы будто стоите, лучше понимают русский язык, чем ваш жаргон! Мне это говорили верные люди. Почему, спрашивается? Потому, что наш язык не русский только, а общепонятный! Об-ще-по-нят-ный! Понял?

*(Дзьверы раптоўна адчыняюцца і ўваходзіць Іван Вікенцьевіч).*

Ів. Вік Что за шум, товарищи? Вы, кажется, занимаетесь не делом, а разговорами...

Мар. Ал. Мы, Иван Викентьевич, спорили: для чего нужна нам белоруссизация!

Ів. Вік. Т.-е. как для чего? Странный вопрос! Приказ главконторы № 13410! И спорить тут нечего!

Мар. Ал. Да ведь и раньше были такие приказы, да, слава богу, проносило!

Ів. Вік. Ну, на этот раз не пронесет. Решительно взялись. Вообще с белоруссизацией мы отстали... Надписи везде у нас русские... Могут придраться! Тов. Печерица, вы переведите все надписи и вывески на белорусский язык. Только одно прошу, переводите языком Купалы, без этой інбелкультовской галиматьи. А то на днях видел плакат: „Просяць на падлогу не пляваць“. Почему не на „пол“, а на „падлогу?..“

Пячэрыца. Бачыце, у сялянскай хаце пол—гэта месца, дзе сьпяць.

Ів. Вік. Ясно, селяне не настолько богаты, чтобы обзавестись английскими кроватями, а потому и спят на полу. Но не на потолок же они плюют?

Пячэрыца. Пол—гэта памост такі ў хаце каля печы: Нешта накшталт расійских „палацей“.

Ів. Вік. Гм! Странно! По-моему: пол—так пол, а полати—так полати. Но все же вы придерживайтесь Купалы. (*Выходзіць*).

*Пауза. Усе працуюць. Памалу адчыняюцца дзьверы і бокам прасоўваюцца Сымон Цюхцяй, Паўлюк Рабаштан і Гапка Бандарэнкава. Сморкаюць насы і заміраюць ля дзьвярэй.*

Сонечка (*скончыўшы запісваць*). Вам что нужно, граждане!

*Сяляне падыходзяць бліжэй, кланяючыся.*

С. Цюхцяй. Да вашай ласкі... Бомагу тут нам, значыцца, трэба...

Сонечка. Какой вам бумаги: писчей, оберточной или папиросной?..

Гапка Банд. Сапраўдную бомагу, паненачка! Каб гэным Варэнікам аж у носе закруціла. Бач, ня-

чыстая сіла, думаюць, калі швагра ў Раі[1]). Пісарчуком, дык яны ўжо вялікія цацы... Знойдзем раду і на вас!

Сонечка. Вареники? Какие вареники?

Цюхцяй. Трэба, значыцца, папарадку, як належыць... Значыцца, як пасьля леваруцыі панскую зямлю дзялілі, дык і мы сабе, трое нас, значыцца, суседзяў: я, Паўлюк і Гапка і сабе гароду панскага ўзялі, ад Баўтруковай ігрушы да ставу, значыцца, які да нашых гародаў прыпірае...

Сонечка. Ладно, ладно! Вы говорите лучше, какой вам бумаги нужно. Скорее, некогда!

Цюхцяй. Дык я-ж хачу ўсё, як належыць, расказаць. Так яно ўжо вядзецца спрадвеку, што багаты, колькі-б ён ні меў, на большае прагне. Так і тыя Варэнікі: зямлі сеюць аж па 5 дзесяцін на брата, ды аселіца, ды дзьве сядзібы, ды гароду шмат.

Сонечка. Вы лучше не про вареники, а сколько и какой вам бумаги нужно?

Цюхцяй. Не, чакайце. І ўсё ім, нячыстай сіле, мала, узялі яшчэ і тыя нашы няшчасныя кавалачкі гароду пазабіралі. Вось якія тыя Варэнікі.

Сонечка *(хвалюючыся)*. Ах, боже мой! Да какое нам дело, што вареники лавочки у вас позабирали.

Рабаштан. Зьвярнеце ўвагу, паненачка. Той Баўтрук Варэнік сваяком даводзіцца нашаму Порхаўцы, старшыні, значыцца. Дык яны удваіх і круцяць!

Сонечка. Ну и пускай крутят... А нам то какое дело?

Цюхцяй. Вось табе й на! Аджа нас падкрыўдзілі, абідзелі, значыцца, дый няма ніякага дзела...

Сонечка. Если вас обидели, жалуйтесь, куда надо, а здесь Бумтрест. Тут бумагу за деньги отпускают. Поняли?

Цюхцяй. А вядома! Разумную гаворку, як кажуць, і дурань пойме. Цяпер ужо такі час настаў,

---

[1]) Рай—скарачэньне „райвыканком“.

што дарма і скула ня сядзе. Ізноў-жа, значыцца, праца ваша вялікая, а пэнсіі даюць, пэўна, на два хунты солі на месяц.

Гапка. А ні гароду свайго, а ні поля! Усё купі, за ўсё грошы дай, і хлеба, і да хлеба, і цыбулькі, і бульбачкі...

Сонечка *(усхваляваўшыся)*. Да русским же языком вам говорят: тут Бум-трест...

Цюхцяй. А мы-ж хіба што? Як трэба даць, дык трэба даць. Хоць мы, значыцца, людзі і бедныя, але кажэце, колькі вам за працу...

Сонечка *(ледзьве стрымоўваючыся)*. Слушайте! Не морочьте головы! Идите себе жалуйтесь куда хотите, в другое место. А тут Бумтрест. Тут не суд, а Бум-трест... Бум-трест! Поняли?

Гапка *(у бок)*. Поп сваё, а чорт сваё! *(Да Сонечкі, схіляючыся і ціха)*. Паненачка! Вось слухайце сюды! Вы ўжо пусьцеце нашу справу, а я на тым тыдні вам прынясу і масьлічка, і яечак, а яшчэ можа й палатна на кашульку! Яй-бо, прынясу. Вось сукіна я дачка, калі не прынясу...

Сонечка *(ня вытрываўшы, крычыць)*. Убирайтесь к чертям со своим масличком да полотном! Вы мешаете работать. Уходите сейчас же. Вы не туда попали...

Цюхцяй. Як чалавеку, значыцца, прысмаліць...

Сонечка. Отцепитесь, бога ради! *(Ледзь ня плачучы)*. Тов. Печерица! Об'ясните своим землякам, чтобы они уходили жаловаться в другое место. Простого человеческого языка не понимают...

Пячэрыца. Я-б гэта з ахвотаю зрабіў, але баюся, што яны не зразумеюць пабеларуску. Хай Пісталетаў на „общепонятным“ з імі пагамоніць!

Пісталетаў *(рашуча)*. Хорошо! Увидим. Я тебе докажу. *(Падыходзіць да сялян)*. В чем, собственно, дело, граждане?

Цюхцяй *(схіляючыся)*. Да вашай, значыцца, ласкі. Вось, як стала леваруцыя ды вышла народнае права, дык і мы сабе, значыцца, з панскай зямлі ўзялі гароду да ставу. Гарод, значыцца, нішто сабе. Агуркі,

там, дайце веру, вось такія *(Паказвае)*. Ды смачныя, смачныя, а капуста—амаль па пуду, да-душы не брашу. Вядома, значыцца, зямля панская, а ня мужыцкая...

П і с т а л е т а ў. Это мы слышали. Забрали у вас эту землю?

Г а п к а *(хліпаючы)*. Забралі, бадай іх за печані ўзяло, забралі! Хіба калі бедны права даб'ецца? Як у тых Варэнікаў скрозь рука: там кум, там сват, там швагра...

П і с т а л е т а ў. Ну, будет! Так вы хотите жаловаться?

Ц ю х ц я й. Але, але! Жаліцца хочам.

П і с т а л е т а ў. А письменное заявление у вас есть?

Ц ю х ц я й. А як-жа, як-жа! Вось яно, зараз! *(Дастае з-за халявы заяву, якая закручана ў дзьве хусткі, асьцярожна разьвінае і падае Пісталетаву)*. Вось! Мы, значыцца, парадкі ведаем: заява і грошы на маркі..

П і с т а л е т а ў *(бярэ заяву і чытае)*. „До власти Советской, в г. Болотном“...*(Да Пячэрыцы)*. Ага! Я прав! Ваши белорусские селяне пишут по-русски. Заметь это! *(Да сялян)*. Только вот что, граждане! Почему до власти Советской? Тут везде власть Советская! Совнархоз, например, тоже власть Советская.

Ц ю х ц я й. Ды мы самі няпісьменныя, а Ільля Грыгоравіч, дзяк наш, значыцца, кажа: „Хто яго ведае, куды цяпер пісаць па гэтай справе пры іхніх парадках? Старайцеся, абы бомагу да рук прынялі, а яна ўжо патрапіць, куды трэба!“

П і с т а л е т а ў. Чудаки вы со своим дьяком! Помните, когда пишете прошение или заявление, всегда указывайте точно, в какое место. В противном случае, если даже принесете заявление куда надо, то там вам поставят это на вид и не примут...

Г а п к а *(спалохана)*. Матулечка! Бадай вас з вашым дзяком! Вось напісаў! Яшчэ й па віду дастанеш за такое пісаньне! Казала: хай лепш поп піша, а то дзьве бутэлькі самагону ды пуд жыта як у памыйніцу пашло!

Рабаштан. Маўчы, дурная! Ізноў-жа й нам па чарцы перапала! Ды яшчэ можа і біць ня будуць...

Гапка. Але, ня будуць! Што ты будзеш казаць, як сінякі на віду панясеш дадому!

Пісталетаў (*які ўвесь час стаяў, вылупіўшы вочы*). Что она плетет?

Рабаштан Ды, дурная, баіцца, каб морду не пабілі за дзякава пісаньне.

Пісталетаў. Т.-е. почему это—побили морду?

Гапка. Аджа вы самі казалі, што на від настаўляюць.

Пісталетаў. Хорошо! Но при чем же тут морда?

Цюхцяй. Значыцца, панашаму, пасялянскаму, што від, што морда - тое самае.

Пісталетаў (*паціскае плячыма, да Мар. Ал. і Сонечкі*). Удивительный народ эти белоруссы! Все посвоему перекручивают! Хотя... Если с белорусского перевести на русский, то выйдет „заехать в пейзаж“. Это даже остроумно, знаете! Надо заметить. (*Чытае дальш*). „Граждан дер. Песковатой Семена Тюхтяя, Павла Рябоштана и Гапки Бондаренковой всепокорнейшее заявление“. А кто из вас Рябоштан?

Рабаштан. Гэта я!

Пісталетаў (*жартуючы*). Почему Рябоштан, а не Белоштан? Ведь на вас штаны белые?

Рабаштан. Гэта вы ўжо, паночку, у горадзе ў паноў пытайцеся, чаму на сялянах штаны белыя. Бо на чорныя не заробіш цяпер!

Пісталетаў. Гм! (*Чытае дальш*). „Так что после революции и на основании народного права мы получили кусок огородной земли, каковая раньше принадлежала генеральше Духоперовой... засевали овощами и другими злаками на потребу себе и остальному человечеству... Варфоломей Вареник, приобретя у Оныськи Кривой две бутылки самогону... в сельраду, где вышеозначенный самогон истребили с Иваном Порховкою, нашим старшыной... Из такой политики вышло то, что на другой деньВарениковы

хлопцы Иван и Моисей явились с лошадьми на наши огороды и начали орать... *(зьвяртаецца да сялян)*. Они что-нибудь оскорбительное орали?

Ц ю х ц я й. Але, але! зашлі трыма коньмі дый пачалі араць.

П і с т а л е т а ў. Т.-е. как это тремя конями?

Ц ю х ц я й. Грунт, значыцца, глеяваты, бо самая лагчына. Дык на двое коні цяжка; трэба прыпрагаць і трэцяга.

П і с т а л е т а ў. Да при чем же тут кони, скажите на милость!

Р а б а ш т а н. Чуў я ад аднаго таварыша, што дзесьці ўжо коні скасаваны, а аруць нейкім трахтарам. А ў нас пакуль што пастарому: аруць коньмі, а хто валы мае—валамі.

П і с т а л е т а ў. Ага, пахали! „Орет в поле ратай да понукивает", из этой оперы. Только зачем вы употребляете какие-то старинные, вышедшие из употребления слова? Сказали бы просто: пахали. Это ясно, понятно и не двусмысленно. А то догадывайся *(чытае дальш)*. „Когда же мы прибежали жалиться до старшыны Ивана Порховки, то застали его в естественном состоянии, сиречь пьяным в дошку, который Иван Порховка начал нас лаять с упоминовением родителей, об'ясняя, что орать он разрешил"... (*Да сялян*). Здорово допился, что даже лаять начал! Это с ним часто случается?

Р а б а ш т а н. Амаль штодня. На палудзень гатовы—п'яны, як смоўж.

П і с т а л е т а ў. И всегда в пьяном виде лает?

Ц ю х ц я й. Ды ён і цьвярозы можа ня горш вылаяць.

П і с т а л е т а ў. И трезвый лает? Да он у вас нормальный?

Ц ю х ц я й. Ой, такі сукін сын, выбачайце, што і свайму злому не пажадаеш!

П і с т а л е т а ў. Эт!.. я вас спрашиваю: он не того? Здоров?

Р а б а ш т а н. Якой яму трасцы! Асьміны дзьве жыта, куды хочаце на плячох выпра!

П і с т а л е т а ў. Да я не про то! Он не сумасшедший?

Ц ю х ц я й. Не, які-ж ён самашэдшы. Ужо новую пуню паставіў, хлеў злажыў дый на хату матар'ял рыхтуе. Ды яшчэ двое коні...

П і с т а л е т а ў. Да как же не сумасшедший? Приходят к нему по делу, а он—лаять! Да ведь это форменный психоз на почве алкоголизма.

Г а п к а. Гад, ён, паночак, а ня псіхоз! Які ён там псіхоз! Такія гады толькі раз на сто год на сьвет зьяўляюцца! Валацуга няшчасны!

П і с т а л е т а ў. Его лечить нужно! У него, очевідно, белая горячка! Ну разве станет здоровый человек лаять по-собачьи?

Ц ю х ц я й *(задзівіўшыся)*. Вось ня ўцямлю, як гэта можна лаяць пасабаччу? Не даводзілася чуць.

П і с т а л е т а ў. А у вас что написано: „лаял с упоминовением родителей“...

Г а п к а. Ды ён заўсёды так: як што не па яго, зараз лае. Аднойчы пяру я кашулі на ставе...

П і с т а л е т а ў *(раззлаваўшыся)*. Куда прёшь свои кашули? Что еще за чепуха!

Ц ю х ц я й. Маўчы, Гапка, не чапай! Тут трэба хутчэй канец выводзіць. *(Да Пісталетава)*. Мы, значыцца, як зашліся да яго, дык ня ўсьпелі, значыцца, і рот разявіць, як ён і пачаў: і такія вы, і сякія, гады вы, кажа, чортавы табакеркі, кундалявы сыны, так да растак вашу, выбачайце...

П і с т а л е т а ў. Ну, будет, будет! Можете дальше не продолжать... Так это по вашему лаял? Да ведь это—ругал, бранил, оскорблял словами, сквернословил, крыл матом, наконец. А вы что пишете—лаял! С пьяных глаз, вероятно... Собака только может лаять, а человек никогда, если он нормальный.

Г а п к а. Во якое дзіва! Ніколі ня чула, каб сабака каго лаяў! Сабака брэша, пане!

П і с т а л е т а ў *(абураны)*. Ну вот! Ну вот! Толкуй с ними! Брешет, это, иначе сказать—врет. Как, спра-

шивается, может врать собака, когда она и говорить не умеет? Собака лает, а человек только может брехать!

Рабаштан. Можа ў паноў і сабакі лаяць умеюць, павывучваліся. Тож панскія сабакі разумныя, на ўсялякія штукі прызвычаеныя, а нашы, сялянскія, тыя ўсе брэшуць...

Пісталетаў *(з адчаем)*. Чорт! Ну и толкуй с ними, как знаешь! Идиоты! Самых простых вещей не понимают!

Мар. Ал. Да неужели вы не догадываетесь, что они либо пьяны, либо все это подстроено нарочно!

Пісталетаў. Знаете, это возможно... В этом произведении есть еще один перл. *(Чытае)*. „Означенный не только выорал наши городы, но и переорал прогон до ставу, чем лишил и нас и наших суседов всякой возможности гонять свой товар до воды". Вы из этого бреда что-нибудь понимаете?

Мар. Ал. Товар? Ага, вот оно что! Товар! Да какие же они селяне? Они, значит, просто спекулянты!

Цюхцяй. Крый божа! якія-ж мы сьпякулянты? Мы сабе сяляне, значыцца, грэчкасеі!

Мар. Ал А зачем у вас товар?

Цюхцяй. Дзе-ж вы бачылі! Хіба-ж можна нашаму брату без тавару гаспадарыць?

Пісталетаў. Каким товаром вы торгуете?

Цюхцяй. Не, мы таварам не таргуем, бо мы не барышнікі! Для сябе трымаем, бо гаспадарка...

Пісталетаў. Ах, боже мой! Да какой дурак станет держать товар для себя! Раз для себя, значит это не товар. Вот это, например, как по вашему: товар? *(Паказвае на свае штаны)*.

Цюхцяй *(чухаючы патыліцу)*. Штось на тавар не падобна, хутчэй на штаны...

Пісталетаў. Вот то-то оно и есть! Сейчас это вещь, а вот когда они висят в Швейпроме—вот тогда они есть товар! Поняли теперь?

Рабаштан *(чухаючы патыліцу)*. Штось ня ўцямлю. *(Да Цюхцяя)*. Ці ў вас, дзядуля, не здаралася часам, каб штаны раўлі ў каморы, як віселі на калочку?



Ц ю х ц я й. Не, не здаралася. Але-ж, бач, не ў кам止оры, а, кажуць, у швейпроме як вісяць, тады з іх тавар выходзіць, значыцца...

П і с т а л е т а ў. Вот, вот, именно! Они тогда товаром делаются, для продажи.

Г а п к а. А што вам здаецца? Кажуць-жа: калі шалёны сабака парве спадніцу, дык згарні яе ды палажы ў куток,—адразу шчанюкі завядуцца!?

П і с т а л е т а ў. Отцепись со своими щенюками! Ну-с, так каким же товаром вы торгуете?

Р а б а ш т а н. Яно, ведаеце, бываюць з нашага брата спэцывалістыя, якія барышуюць таварам, а мы да гэтага непрызвычаеныя. Мы для сябе трымаем, бо, ведаеце, гаспадарка...

П і с т а л е т а ў. Ф-у-у-у! Тут надо иметь нервы, как веревки... Не втирайте очков, говорите: вы купцы или селяне?

Ц ю х ц я й. Як што зручна ды ў кішэні якая двузлотка круціцца, то мы заўсёды купцы, як, значыцца, што нам трэба.

П і с т а л е т а ў. Ага, купцы! Какой же вы товар держите?

Ц ю х ц я й *(у бок)*. Вось прычапіўся да тавару! Ці не намагаецца пад падатак падвесьці! *(Да Пісталетава)*. Пане! Вось я вам зараз скажу... Кажуць старыя людзі: нямазанае, значыцца, калясо рыпіць надта...

П і с т а л е т а ў. Колесо? Значит, вы колесами торгуете?

Ц ю х ц я й. Ды хіба-ж мы калёснікі, ці што? Гэта я кажу: можа-б падмазаць, каб ня рыпела...

П і с т а л е т а ў *(траціць паступова апошнюю цярплівасьць)*. К чорту! Пускай рипит! Да говорите же, наконец, какой у вас товар? Железный, скобяной, деревянный, красный, аптекарский, бакалея!..

Ц ю х ц я й *(у бок)*. Вось прычапіўся, як шавецкая смала! *(Да Пісталетава)*. Рабы, паночак, рабы! Як ёсьць, увесь рабы, а ў Гапкі—падласенькі...

П і с т а л е т а ў. О, боже! Поймите: рябой товар! Подласый товар! *(Канчаткова страціўшы цярплівасьць)*.

У-у-у-у! *(Махае кулаком)*. Это... Это... Идолы, да скажете ли, наконец, толком, что вы продаете?..

Цюхцяй. Мы—нічога... Мы ўсё паплацілі, усе, значыцца, падаткі... А як часінай на кірмаш вывезеш ці пшаніцы гарнец, ці жыта або бульбачкі, або баба масьлічка там якога-небудзь або сьмятанкі...

Пісталетаў. Ага! Так вот какой ваш товар! Так это пшеницу да масличко со сметаной до воды гоняете! *(Крычыць, тупае нагамі, б'е кулакамі аб стол)*. Вы что же это, а? Вы думаете, что можно зайти в учреждение и с пьяных глаз пороть всякую ерунду? Вон! Вон сейчас отсюда! *(Сяляне з жахам памалу адсуваюцца ад яго)*. Вон! Где курьер? Василий!

Гапка. Ой, гаручка на яго! Вось так-так! Уцякайма хутчэй!

Рабаштан. Ды нячысты яго ведае, у якія дзьверы! Бач, іх тут чортава гібель!

Гапка. Уцякай куды бачыш, бо біць будуць. *(Сяляне мятусяцца па пакоі. Пячэрыца рагоча, аж на стол кладзецца)*.

Пісталетаў Стой, ни с места! Я вас в милицию! Протокол!.. Там вам покажут, как масличко до воды гонять. Курьер! Товарищ!.. Тьфу! Василий! Товарищ. *(Сяляне хочуць прапхнуцца ў дзьверы з надпісам „Кабинет Управдела“)*.

Мар. Ал. Куда вы, куда лезете! Не видите: там кабинет управдела.

Пісталетаў. Василий! Курьер!.. Тьфу... Товарищ курьер! Забрать их... в милицию... Протокол за появление в пьяном виде в публичном месте... Стой, говорят, ни с места! *(Сяляне хочуць прапхнуцца ў дзьверы, з надпісам „Бухгалтерия“)*.

Сонечка. Тут бухгалтерия! Повылазило вам, что-ли? Куда вас несет!..

Гапка. А бадай цябе, чортавага дзяка, пісала і ўдоўжкі і ўшыркі. Бач, напісаў, што не патрапіш, у якія дзьверы ўцякаць.

Пісталетаў. Не уходить! Курьер, товарищ Василий! Понапивались и являются тут голову морочить. Здесь, голубчики, учреждение государственное, а вы... Курьер!.. Никогда его нет на месте. Василий!

Ц ю х ц я й. Вось—паскардзіліся! Хай яны скрозь зямлю пойдуць тыя гароды... *(Мятусеньне ня спыняецца).*

П і с т а л е т а ў. Курьер, Василий!.. Товарищ!.. Там вам как приставят припарки, живо поймете, какой товар бывает... Курьер!.. Где его черти носят?!.

П я ч э р ы ц а. Ай, не магу! *(Да Пісталетава)*. Будзе, супакойся. Ужо давёў, як ня можа быць лепш. Вось табе і „общепонятный“...

П і с т а л е т а ў. Отстань! Я им покажу, как картошку до воды гонять!.. В милицию!..

П я ч э р ы ц а. Ды яны не „картошку“, а тавар, гэта значыцца—жывёлу, гаўяду да вады ганяюць. Яны табе праўду кажуць!

П і с т а л е т а ў. Толкуй! Что общего у скота с товаром?

П я ч э р ы ц а. Дык гэта-ж папалеску, памясцоваму. А тое, што вы завіцё таварам, паіхняму будзе „крам“, „крамніна“.

П і с т а л е т а ў. Тьфу!.. *(Садзіцца, адсопваючыся, на месца).*

П я ч э р ы ц а *(да сялян)*. А вы, людзі добрыя, ня туды патрапілі. Тут кантора папяровай крамы. Тут таргуюць паперай.

Ц ю х ц я й. Вось яно што! То-ж мне ўвесь час здаецца, што мы нібы-та ня ў тыя вароты патрапілі.

П я ч э р ы ц а. А вам па вашай справе трэба да Земаддзелу. Пайдзеце па гэтай-жа вуліцы, туды, да рынку, прамінеце дзьве вуліцы пярэчныя, а на трэцяй возьмеце леваруч. Там запытаецеся... Толькі, пэўна, раней трэба было-б вам, здаецца, зьвярнуцца да вашага Раю...

Р а б а ш т а н. Але! Каб-жа ў нашым Раі ды чэрці не сядзелі! Варэнікаў швагра пісарчуком там нейкім, а сакратар з Порхаўкай заусёды кунпанію водзяць, заўсёды п‘юць, дык мы і мяркуем сабе: бярэм, пэўна, адразу вышэй.

Ц ю х ц я й. Дзякаваць вам, дзякаваць, што накіравалі нас куды трэба! А то паненачка—„бумтрысь“ ды

„бумтрысь“, а панок гэны злы ўсё нечага да тавару чэпіцца... Вось і разьбярыся тут!

Рабаштан. Але кратаемся! Тут вельмі не пагамоніш, бо занадта ўсе злыя! *(Да Пячэрыцы)*. Дзякуем вам, што сьцежку паказалі, пакажэце яшчэ, у якія дзьверы выходзіць, бо не патрапім.

Пячэрыца. Ідзеце проста ў гэтыя. *(Паказвае)*

Рабаштан і Гапка. Выбачайце на нас! Бывайце! *(Выходзяць)*.

Пячэрыца. Ідзеце здаровы!

Цюхцяй. Але шкадлівы народ гэтыя вашы гарадзкія! Прыехалі мы за 80 вёрст, значыцца, у горадзе, як у лесе... Дзе яе шукаць Савецкую ўладу. Казалі нам—будынак ё вялікі і вывеска чырвоная пачэплена над дзьвярыма. Ідзем мы, калі зірнем—будынак вялікі і вывеска чырвоная. Паўлюк кажа: пэўна, сюды! А я кажу: чакай, лепш запытаемся раней! Калі гэта йдзе якісь чалавек, яшчэ не стары, відны з сябе і апрануты прыгожа, у капялюшы. Мы да яго: ці ня сюды нам часам трэба? А ён пэўна, кажа, сюды. А вы па якому, значыцца, дзелу? Так і так, кажам, наконт зямлі, значыцца Скардзіцца хочам! А ён кажа: так гэта вы ў самы раз папалі...

Гапка *(прасоўваючы галаву ў дзьверы)*. Ды йдзі, дзядуля, хутчэй! Бо дагаворышся, што такі атрымаеш па патыліцы!

Цюхцяй. А й сапраўды! Выбачайце, што мы, дурныя, столькі часу вас турбавалі. Цёмныя мы, няпісьменныя... Сказана: дурны мужык... Бывайце!

*Заслона.*

---



